**sumezha**

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...

Я.КУПАЛА



№ 2 (86) Заснавана ў 1991 годзе. Чэрвень 2000 г.



## НАШ ЗЯМЛЯК – ЛЕПШЫ ВУЧОНЫ КРАІНЫ.

На апошнім агульным сходзе Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адразу некалькі вядомых вучоных краіны атрымалі ганаровыя званні. Пастаўчане могуць ганарыцца, што наш зямляк Андрэй Майсяёнак абраны членам-карэспандэнтам НАН аддзялення медыка-біялагічных навук. Ён нарадзіўся ў гады вайны ў Глыбокім, а з 1949 г. сям'я ўрача і настаўніцы з сынам апынулася ў Варапаеве. Пасля школы будучы вучоны-біяхімік з адзнакай закончыў лячфак Гродзенскага мединстытута, аспірантуру, адслужыў у войску і стаў карыфеем у сваёй галіне. Зараз таленавіты чалавек жыве і працуе ў Гродна, вядомы сваёй публіцыстычнай дзейнасцю, захапленнем беларушчынай і краязнаўствам. З'яўляецца старшынёй Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута. Чытачы "Сумежжа", мабыць, памятаюць ягоны дакументальны нарыс "Пастаўскі сюжэт у жыцці акадэміка астранаўтыкі", які ў 1994 годзе быў змешчаны ў нашай газеце.

## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## "ВІТАРЖ'Е" ВЕДАЮЦЬ ЗА МЯЖОЙ.

Жыхарам горада і раёна добра вядомы фірменны магазін "Вітарж'е", адзін з 12 вядомай прыватнай сямейнай фірмы з Наваполацка. Адкрыліся яны ў бліжэйшых райцэнтрах і пераканаўча даказалі перавагі бізнес-гандлю над спажыўкааперацыяй і неразваротлівымі дзяржструктурамі. Каб падтрымаць прэстыж фірмы годна і надалей, днямі група супрацоўнікаў, сярод якіх быў кіраўнік з Пастаў, з'ездзіла на кароткую стажыроўку ў Беласток. У Польшчы зараз сапраўдны гандлёвы бум. Апроч звыш 800 супермаркетаў дзейнічаюць там цэлыя палацы гандлю, усмешкі і ўзорная культура абслугоўвання выгадна адрозніваюць ад нашых польскіх гандляроў. Будзем чакаць, што і ў нас такое стане правілам, а асартымент тавараў і іх кошт, прыемна здзівяць кожнага пакупніка.

## ДЫНАМАЎЦЫ РАСПАЧАЛІ ПАДРЫХТОЎКУ.

Нашы Паставы добра вядомы ў Беларусі не толькі дзякуючы міжнароднаму фестывалю народнай музыкі. Своеасаблівай візітоўкай горада стала наша слаўная каманда валейбалістаў, якая трэці год запар у мужчынскім чэмпіянаце Беларусі выходзіць у тройку мацнейшых у першай лізе. Пасля заваявання бронзавых узнагарод калектыў адпачываў роўна месяц і ўжо напрыканцы мая распачаў падрыхтоўку да новага сезона. Каб перамагаць тыя ж Кобрын і Полацк, Бабруйск і Гомель трэба ў свой вольны час пасля працы трэніравацца чатыры разы на тыдзень. Падрыхтоўчы цыкл складаецца з кросаў, атлетыкі, футбола. У ліпені пачнуць хлопцы працу з мячом. Бліжэйшы рэзерв будзе на зборах у Варапаеве, дзе на спорткомплексе правядзе серыю трэніровак юнацкая зборная Беларусі. Дзесьці ў лістападзе гледачы ўбачаць каманду "Дынама" (Паставы) на старце гульняў новага першынства краіны.

## НАПІЎСЯ Ў АПОШНІ РАЗ.

Кожны тыдзень па лініі пракуратуры вобласці ўзбуджаюцца па 30-40 крымінальных спраў. Як правіла, звычайна па самай страшнай падставе, звязанай са здзекамі, бойкамі, якія заканчваюцца трагічна. А вось у нядаўняй смерці 22-гадовага хлопца з Заўлічча не вінаваты ніхто. Правільней усё ж удакладніць, што да бяды прывяла яго празмерная цяга да спіртнога. Малады чалавек, як высветлілася, проста задыхнуўся пры моцнай

*(працяг на старонцы 2)*

рвоце. Ён быў такі п'яны, што не мог кантраляваць свае дзеянні. Зрэшты, гэта не першы такі трагічны выпадак у гэтай нешчаслівай сям'і, дзе ўжо заўчасна пайшлі з жыцця бацькі, брат, любіўшыя чарку. Сёння п'юць нават больш, чым у гады застою, бо палітыка спайвання насельніцтва выгадная ўладу трымаючым, а напоі самыя танныя ў Еўропе.

**МУЖЫК З ЦЯПКАЙ, БАБУЛЯ З КАСОЙ.**

Наш карэспандэнт, праехаўшы ў чэрвені па некалькіх заходніх раёнах Віцебшчыны, быў літаральна паверžаны ў шок. З 18 на 19 чэрвеня маразы літаральна знішчылі пасевы бульбы на калгасных плантацыях, у сялянскіх гаспадарках. Непапраўны ўрон нанесены агародам.

Што казаць, прырода ў апошнія гады варожая, калі можна так сказаць, для захаду Віцебшчыны. 1998 год – вымаклі тысячы гектараў. 1999 год – суша. І вось 2000 год. Да адсутнасці дажджоў дадаліся нявіданыя ў разгары лета маразы.

Безумоўна, гэта можна назваць стыхійным бедствам. Можна і зразумець пэўную разгубленасць уладаў. У нас на ўсе выпадкі ёсць адно – масавая мабілізацыя на ратаванне таго, што яшчэ застаецца. Таму і выязджаюць з калектываў брыгады, якія б'юць траву падчас няточанымі і некляпанымі косамі. Падчас мужчыны авалодваюць справай, якой раней займаліся толькі жанчыны – праполваннем буракоў.

А між тым у вёсках, дзе ўся надзея на далейшае звязаная якраз з будучым ураджаем, даводзіцца і сямідзесяцігадовым бубулям браць у рукі косы, каб хоць нешта нарыхтаваць для казы, для каровы.

**ЯКАЯ КАРЫСЦЬ АД ДЭПУТАТА?**

Мінулагодняя кампанія па выбарах прадстаўнічых органаў улады была столькі прадказуемай, што нават правячая "вертыкаль" незадаволена празмернай паслухмянасцю сваіх дэпутатаў. На апошняй сесіі Пастаўскага райсавета па пытаннях працы з насельніцвам у адрас 197 "прадстаўнікоў" народа прагучала рэзкая крытыка. Маўляў, і не актыўныя яны, практычна не карыстаюцца правам дэпутацкага запроса, а на сесіях сямі саветаў за год ні разу не быў заслуханы ход прымаемых рашэнняў. Дарэчы, зразумела чаму кіраўнікі-дэпутаты пякуцца перш за ўсё пра сябе. Яны без ведама выканкама не ў праве думаць і дзейнічаць самастойна.

**АГРАСЕКТАР – ЧОРНАЯ ДЗІРКА.**

У папярэднім нумары "Сумежжа" мы паведамілі аб выяўленні факту крадзяжу ядахімікатаў у калгасе "Сцяг Перамогі". Па тэхнічных прычынах у матэрыяле дапушчаны пропуск. Другі абзац трэба чытаць: **"З пачатку года толькі ў калгасах і саўгасах вобласці выяўлена 109 злачынстваў, па якіх узбуджана 100 крымінальных спраў".** Страшная і суная статыстыка. За ёй, як у люстэрку, бачна цяжкае і адчайнае становішча паміраючай калгаснай вёскі. Хваля злачыннасці, мажліва, магла б пайсці на спад, калі б там з'явіліся сапраўдныя гаспадары.

**ФЕСТЫВАЛЬНЫ РАЗГУЛЯЙ.**

У дзевяты раз на Пастаўскай зямлі з 15-18 чэрвеня прайшоў штогадовы міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік." Адразу на трох імправізаваных пляцоўках на цэнтральнай плошчы горада слухалі тысячы людзей самабытную музыку.

З-за фінансавых праблем лёс фестываля вырашаўся літаральна на працягу апошняга месяца. Паступленне грошай чакалі з Міністэрства культуры і вобласці да самога апошняга моманту. Па гэтаму з-за позняга атрымання запрашэнняў і эканамічных прычын на фестываль прыехалі калектывы з усёй Беларусі і толькі з Расіі, Літвы і Украіны.

Тым не менш арганізатары пастараліся і на адным энтузіязме зрабілі ўсё магчымае, каб свята ўдалося. Як звычайна, падвяло толькі надвор'е. На гэты раз моцна пахаладала, што прынудзіла натоўп узмоцнена шукаць латкі з моцнымі напоямі. Самых патрабавальных гледачоў зачараваў прафесійны ансамбль "Бліскавіца", які традыцыйна выдатна дапаўняў Дзяржаўны народны акадэмічны аркестр імя Жыновіча. Для моладзі ў рамках фестываля арганізавалі суботнім вечарам выступленне рок-гурта "N.R.M." з праектам "Народны альбом". У велічнай праграме свята выдзяляўся, як і раней, начны феерверк "Агні спадчыны", канцэрт старадаўняй беларускай музыкі ў касцёле, унікальны канцэрт ансамбля народных духавых інструментаў, выстава "Горад майстроў", канцэрт звоннай музыкі. Лепшыя выступленні гасцей будуць захаваныя для слухачоў на спецыяльна выдадзенай аўдыёкасэце. Сапраўднае мастацтва перажыве стагоддзі, аб чым падцвердзіла на фестывалі і літаратурна-музычная кампазіцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры, земляка Уладзіміра Дубоўкі. Яго імя ад гэтага часу носіць Пастаўская дзіцячая бібліятэка.



***Рубрыку вядзе Ўл.Шык (2-20-99)***

# ПАЛЯКІ Ў ПАСТАВАХ.

Пра дружбу народаў, калі глянуць з пункту гледжання гісторыі гаварыць пачалі яшчэ ў біблейскія часы. Помніце, Вавілонская вежа. І Бог у пакаранне змешвае мовы. Ну, гэта ўсмешка. Калі ж браць гісторыю мінулага стагоддзя, як дзетак вучылі ў савецкіх школах, пачынаючы з 17-га года то і пры савецкай уладзе пра дружбу народаў пісана нямала, асабліва падчас круглых датаў утварэння СССР. Як раённы журналіст помню, што мы вышуквалі тады ў раёне прадстаўнікоў розных нацый. У асноўным, канечне, былі рускія, беларусы, украінцы. Было крыху ў нас людзей і з Азіі і з Каўказа. Але помніцца таксама, што былі і абмежаванні. Прадстаўнікі некаторых нацый непажадана было, каб прысутнічалі на гэтых святочных старонках. У розныя часы траплялі ў гэту катэгорыю і яўрэі, і немцы, і крымскія татары.

А вось пра палякаў нешта не помніцца. Здаецца, не было забароны, але і была ціхая палітыка на "перавод" палякаў у беларусы.

Трэба сказаць, што знаходжанне палякаў у нашай мясцовасці, у Заходняй Беларусі, абумоўлівалася цэлым шэрагам такіх часам супрацьлеглых гістарычных варункаў, што цяжка і пералічыць. Ну вось, пасля 1921 года, калі ленінскі ўрад па Рыжскай мірнай дамове аддаў Заходнюю Беларусь польскай дзяржаве, зразумела, стасункі былі на карысць палякаў на нашых землях. Да той нешматлікай польскай шляхты, якая была ў гэтых мясцінах, сталі дадавацца польскія чыноўнікі, інтэлігенцыя, асаднікі. Пераходзілі "ў палякі" і мясцовыя каталікі. Дзяржава ж была польская. І ўлічым, што дзяржава гэта праіснавала да 1939 года. Для асіміляцыі тэрмін немалы. Колькі толькі пакаленняў школьнікаў вучылася не на сваёй мове. Але вось 1939-ы. Стаўленне бальшавікоў да тутэйшых палякаў было поўнасцю варожым. Дзве дарогі – Беразвечча і Сібір. Вывозілі як інтэлігенцыю, службоўцаў, так і заможных сялян, сярод якіх палякаў была большасць. Пры нямецкай акупацыі таксама розныя былі адносіны. Было спачатку і супрацоўніцтва, была і Армія Краёва, якая змагалася з немцамі. Тут этнічна польскае насельніцтва таксама панесла немалыя страты. Так што ў пасляваенны час сапраўдных палякаў заставалася на Пастаўшчыне няшмат. А яшчэ ж пасля вайны па дамове паміж урадамі СССР і Польшчы з тэрыторыі Заходняй Беларусі быў дазвол на выезд у Польшчу і палякаў і каталікоў-беларусаў, якія пісаліся палякамі.

Ну а як я казаў вышэй у далейшыя часы, застойныя, стаўленне да палякаў было больш негатыўнае, чым прыхільнае.

Так што, відаць, толькі ў часы перабудовы, калі ў мясцовых каталікоў з'явілася магчымасць выступіць за вяртанне касцёлу, так і ў мясцовых палякаў з'явілася магчымасць для гуртавання.

Усё вышэйшае напісана для таго, каб падвесці чытача да адной нядаўняй падзеі, якая адбылася ў Паставах. Сход раённага аддзялення Саюза палякаў на Беларусі. Гэта грамадскае аб'яднанне зарэгістраванае, мае нямала, мяркуючы па цяперашнім часе, сяброў. Праводзіць немалую работу ў рэчышчы найперш культурна-асветніцкім і адукацыйным.



Аб узроўні сходу можна меркаваць ужо па тым, што на ім прысутнічаў консул польскай дзяржавы і намеснік старшыні райвыканкама.

На сходзе адбыліся і перавыбары кіраўніцтва аддзялення. Пост старшыні пакінуў Мар'ян Бумбліс, заслугі якога адзначылі ўсе выступаючыя. Ды яны і бясспрэчныя. Узяць толькі арганізацыю выплаты пенсій былым воінам Войска Польскага з нашай мясцовасці. Ён дапамог вельмі многім ветэранам. Новым старшынёй абраны Іосіф Зямчонак, навуковец, гісторык, кнігі якога пастаўчане ведаюць.

Адразу зазначу, што праблем у мясцовых палякаў хапае. Невысокай была яўка на сход. Былі пытанні з памяшканнем для яго правядзення. Але перспектыва адчуваецца. Ёсць моладзь, ёсць планы, ёсць наколькі я мог зразумець і падтрымка з боку Польшчы. Што вельмі натуральна. Рускія дапамагаюць рускім у іншых краінах, палякі – палякам. Праўда, і мы хоць з апошняга дапамагаем нашым братам за мяжой. Але тут ёсць свае ньюансы.

А між тым час энтузіястаў праходзіць. Нейкая грамадская арганізацыя можа працаваць на грамадскіх жа пачатках. Але далей гуртка па інтарэсах гэта не пойдзе. Бо без грошай нельга нікуды паехаць, нельга набыць літаратуру, наняць памяшканне і г.д.

Таму і можна сказаць, што ў пастаўскіх палякаў ёсць перспектывы. Людзі. І падтрымка консульства. Падтрымка касцёла, пра што я адразу павінен быў сказаць. Бо касцёл можа не дапамагаць матэрыяльна. Касцёл гэта своеасаблівы цэнтр па прапагандзе польскай мовы, культуры, польскага духу.

Дарэчы, польская мова на гэтым сходзе не пераважала. Недзе пароўну занялі там сваё месца тры – польская, беларуская, руская. І тут нічога страшнага няма. Мова запануе з цягам часу, і нават калі яе там будзе не 100 працэнтаў, гэта будзе ўсё роўна польскае аб'яднанне.

Ну а цяпер беларускі, як кажуць, аблізнёмся. А што ў нас? У нас саюзаў беларусаў ствараць, відаць, не трэба – свет засмяецца. Урэшце смяецца свет і з нашага таварыства беларускай мовы. Вось і ў Паставах ёсць арганізацыя. Ды няма беларускага храма, знікае беларуская школа. Людзі? Людзі нібыта і ёсць. Ды толькі на тым сходзе палякаў бачыў я знаёмых, з якімі ў свой змагаліся за беларускасць.

***АЛЕСЬ КАСЦЕНЬ*** **(т. 23135)**

# Ад хаткі да палаца





Хаця і жывеш у родным гарадку, хаця і невялікі ён, але ёсць вулачкі, на якія не трапляеш гадамі, а то і дзесяцігоддзямі. Так думаў, апынуўшыся неяк надвячоркам у адным з ціхіх завулкаў свайго райцэнтра. Завулак гэты ў раёне, які заслужана лічыцца старым, зусім недалёка ад цэнтра. Новыя забудовы з прыгожымі дамамі-асабнячкамі на ўскрайках горада. Ну а гэтыя некалькі дамкоў завулка паўсталі на былых агародах гараджан у шасцідзесятыя гады. Адзін з дамоў падаўся знаёмым. Агледзеўся. Так, менавіта той, помню яго яшчэ зрубам, першым зрубам, які ўстаў на адведзеных для забудовы участках. Тут мы яшчэ гулялі ў вайну. І зруб быў вельмі прыдатны для схованкі. А каму ж ён належыў? Так...

І раптам паўстала ў памяці звычайная гісторыя, звычайнага чалавека і звычайнай сям'і. Але ўсё-такі ёсць нейкая адметнасць у гэтай звычайнасці. Вельмі ўжо характэрны прыклад.а пачыналася ўсё менавіта з гэтага дамка.

Недзе ў пачатку шасцідзесятых маладога зусім чалавека, спецыяліста прызначылі кіраваць слабенькай тады раённай арганізацыяй. А ў чалавека сям'я. Жылі спачатку на прыватнай кватэры. Дзяржаўнае жыллёвае будаўніцтва тады практычна адсутнічала. Людзі, пераязджаючы ў райцэнтр з вёсак, будаваліся самі, як правіла сцягваючы адтуль бацькоўскія зрубы. Вырашыў будавацца і наш кіраўнік. Вось тады і паўстаў у будучым завулку першы зруб. Быў ён звычайны, як і ва ўсіх тагачасных местачкоўцаў. Пабудаваліся, перасяліліся, з'явіліся дзеці. І вось бадай што першай ў тым раёнчыку хата была абкладзена цэглай. Трэба зазначыць, што і будаваўся і абкладваўся дом за кошт узначальваемай гаспадаром арганізацыі. Ну, трэба ж кіраўніку дзе жыць. Слова "прыватызацыя" тады не гучала, мелася на ўвазе, што калі, скажам, пойдзе кіраўнік на павышэнне, то і дом перадасць свайму заступніку. Між тым падрасталі дзеці. І з цягам часу да дамка ладна прыляпілася адна, потым другая прыбудовы. Па тым часе дык і добра. Вопытнаму воку адразу было бачна, што ўжо не просты рабацяга жыве ў дамку.

Між тым і часы надыходзілі другія. Даволі шырока стала весціся ў гарадку будаўніцтва шматкватэрных дамоў з усімі выгодамі. І па меры таго як выраслі, абзаводзіліся сем'ямі дзеці – былі ім прадастаўленыя кватэры ў новых мікрараёнах. Канечне, у бацькоўскім доме месца хапала. Але ж дзецям, зразумела, хочацца жыць асобна. Што ж да фармальнасцяў з патрэбай у паляпшэнні жыллёвых умоў альбо чаргі, то з гэтым можна справу вырашыць. Тым больш, што арганізацыя, якой кіраваў наш герой, таксама паднялася, ён сам стаў чалавекам уплывовым, з добрымі сувязямі.

Ну а бласлаўлёныя для спешных забудоў кебічаўскія часы, калі як манна з неба нават на правінцыйны гарадок пасыпаліся практычна дармавыя крэдыты, было ўжо грэх не разгарнуцца. У свой час пра будаўніцтва такіх "крэдытных" асабнякоў я надрукаваў некалькі артыкулаў. Кіпела ў грудзях выхаванага на ідэалах сацыяльнай роўнасці правінцыяла! Перакіпела. Гляджу на гэта з пэўнай аддаленасці нават з усмешкай. Каб толькі гэта...

Але ж і наш герой парупіўся. І ў дзяцей узніклі на ўскрайку горада ўжо не дамкі, двухпавярховыя мураванкі. І сабе дакляраваў. У бацькоўскім асабнячку ёсць усё, што трэба. Зразумела, што ні дамок у ціхім завулку, ні кватэры ў шматпавярхоўках з сям'і не пайшлі. Была ж прыватызацыя і дзяржаўныя кватэры сталі прыватнымі. Ну а права на атрыманне крэдытаў пры наяўнасці жылля? Вы ўсміхнуліся. Зразумела, усё можна зрабіць, калі жывеш з усімі ў добрым знаёмстве, калі сам нешта ў гэтым закрытым правінцыйным асяроддзі значыш.

Такім чынам сям'я простага вясковага хлопца, які ў пасляваенныя часы дзякуючы бацькам атрымаў пэўную адукацыю і лёс якога склаўся досыць удала, атрымала ад дзяржавы немалую нерухомасць. Бясплатна. Зразумела, акрамя нерухомасці ёсць шмат чаго іншага і ў плане матэрыяльным, і ў плане, напрыклад, уладкавання лёса дзяцей. Але не будзем адхіляцца.

Амаль адначасова з нашым героем на пенсію выйшаў адзін з рабочых яго арганізацыі, яны, уласна кажучы, і прыйшлі ў калектыў практычна ў адзін час. Першы – кіраваць. Другі – шафярыць.І будаваліся ў адзін час. Не, шафёр не за кошт арганізацыі. Перавёз ад бацькі з вёскі пуню, прыкупіў лесу. Будоўля расцягнулася на шмат гадоў, капейчына была слабой. Дапамагло тое,

што машына ў руках. Усё такі нешта падвезці бясплатна, ды і закалымiць які рубель, тады ж усе будаваліся. Кіраўнік быў добры, закрываў на гэта вочы.Сёння ў пенсіянера-вадзіцеля неблагі дом, не абкладзены, праўда, цэглай. Ашаляваны. Але больш з нерухомай маёмасці нічога. Дзеці, таксама двое, у Мінску. Дачка гадоў са дваццаць адстаяла ў чарзе, але кватэру атрымала. Сын дык пайшоў на прымы.

Калі б я заставаўся выхаванцам ідэалаў сацыяльнай справядлівасці, я б, напэўна, пачаў цяпер доўгія разважанні пра тое, што і шафёр, адпрацаваўшы доўгія дзесяцігоддзі ў адной арганізацыі, зрабіў для сваёй дзяржавы не нашмат менш, чым кіраўнік гэтай арганізацыі. Што мы страчваем у грамадстве раўнавагу, што была такой трывалай раней…

Ды ніколі такім ідэалістам, чэсна кажучы, я і не быў. Ды вернемся да нашых уладальнікаў нерухомасці. Як я ўжо казаў, яны з аднолькавых па дастатку сялянскіх сем'яў. І будзь бацькі нашага вадзіцеля больш дальнабачнымі, сам ён больш настойлівым, магчыма, будзь у яго больш здольнасцей і ўдачы – ён і сам мог бы апынуцца на месцы кіраўніка. Ну, і як вы думаеце, колькімі б асабнякамі вылічалася яго сённяшняя нерухомасць? Помніце, пра выкарыстанне грузавіка.

Той, мінулы ўжо для нас сацыялізм, з усімі яго недахопамі ўсё-такі даваў магчымасць "выбіцца ў людзі" моладзі і з самых нізоў. Канечне, былі нейкія абмежаванні, забароны найбольш у плане палітычным. Але ўсё-такі магчымасці адкрываліся ў прынцыпе аднолькавыя. Узяць тую ж адукацыю, яна найперш адчыняе дзверы ў свет, дае магчымасць узнімацца. Сёння ж сітуацыя некалькі іншая. І не толькі таму, што платная адукацыя ўжо гарантуе дзецям багатым пэўныя перспектывы і не толькі таму, што сама бясплатная адукацыя патрабуе ад бацькоў немалых выдаткаў. Само набыццё адукацыі ўжо не дае ранейшых гарантый трывалай і матэрыяльна забяспечанай будучыні. Раней падмуркам будучай кар'еры былі сувязі, цяпер іх выцясняюць грошы. "Бацька, няма капіталу!"- думаецца мне, што ўнукам шафёра-пенсіянера будзе ў далейшым значна цяжэй, чым унукам кіраўніка-пенсіянера.

Ды будучае будучаму, вернемся да нашай нерухомасці.

Раённы гарадок ёсць раённы гарадок. Тут многіх ведаеш, пра многіх чуеш, асабліва калі чалавек навідавоку, пры начальстве. І нельга не заўважыць у мясцовым жыцці сваіх заканамернасцей. Першыя асобы раёна, як правіла, пасля выхаду на пенсію ў гарадку не заставаліся. Віцебск, Мінск, там знаходзілі яны свой прытулак у старасці. Ну а чыноўнікі меншага рангу, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый дажываюць свой век дома. І чым старэй чалавек, тым менш у яго гэтай самай нерухомай маёмасці. Канечне, жывуць паасобку, шматкватэрны рай не для начальства. Але дамы звычайныя, сёння нават можна сказаць радавыя. У пакалення адстаўных кіраўнікоў больш маладзейшага ўзросту, тых , хто выйшаў на пенсію ў апошняе дзесяцігоддзе тут становішча ўжо значна лепш. Ёсць да дамка і дзе-небудзь кватэрка. І дача ўжо не дача, а ладная мураванка. Што ж да сёння дзеючых, то цяжка знайсці асобу, якая б ці ўжо не забяспечыла сабе адпаведны набор даброт ці працягвае яго забяспечваць. Выключэнняў няма.

Цікавая ў сувязі з гэтым і палітычная афарбаванасць правінцыйнай эліты. Зразумела, старэйшае пакаленне "чырвонае". І будзем думаць не толькі ад сваёй вернасці традыцыям. Гэта "чырвонасць" падагрэецца ж і бачаннем, параўнаннем таго, што маеш і таго, што маюць. Іх можна зразумець, па-праўдзе кажучы ж, былі і ў іх пэўныя магчымасці, можна было нешта рабіць нават не надта адступаючы ад літары закону. Але ж час, час быў не той. А такая рэч, як нерухомая маёмасць, адразу кідаецца ў вочы. У сярэдняга пакалення, таксама ўжо пенсійнага – ужо "ружовасць". Тое, што было магчыма, мы ўзялі, памяняліся часы, што ж зробіш. Ну а маладыя, сёння дзеючыя ўжо могуць прадаставіць поўны спектр палітычных прыхільнасцей, часам праўда, прыкрываемых каньюнктурнымі меркаваннямі.

І у многіх некіраўнікоў гарадка нерухомая маёмасць выклікае сапраўднае захапленне. Тут іншыя крыніцы, іншыя шляхі для нажытку. Прызнацца, у тых даўніх артыкулах аб асабняках я выказваў трывогу: а ці не стане такое, найбольш кідкае ў вочы, разам з астатнімі расслаенне людзей па матарыяльнаму становішчу прычынай узнікнення сацыяльнай напружанасці.

Няма, не ведаю як ва ўсходніх раёнах, але ў нашых заходніх раёнах не адчуваецца, што гэта можа стаць прычынай нейкіх канфліктаў. Ёсць канечне, і зайздрасць, і раздражненне ў асобных людзей, але гэта не становіцца кансалідаванай з'явай. За пяцьдзесят гадоў у нашых мясцінах ідэі сацыяльнай роўнасці, відаць, так і не знайшлі сваёй трывалай глебы.

Людзі старэйшых пакаленняў яшчэ помняць часы ўладання Польшчы. Калі дзяленне на пана і "няпана" было асноваю жыцця. Сярэднія пакаленні якраз у гэтыя пяцьдзесят гадоў прывучалі да таго, што трэба прымаць усялякаю, падчас нават абсурдную з'яву маўкліва, няхай і без адабрэння. А ў маладых пакаленняў іншыя клопаты – чым дабівацца сацыяльнай справядлівасці – ім трэба дбаць пра свой бізнес, пра тое, як пабудаваць сваё жыццё ў няпростых умовах правінцыі, дзе беспрацоўе рэальная і няўхільная з'ява.

Ну а дамкі, дамы, асабнякі, палацы… Няхай іх более на нашай зямлі. Відаць, чым больш нерухомасці, тым яна танней. А што ў адных руках яе зашмат… Гісторыя паказала, што можна ўсё адабраць. Але падзяліць пароўну не атрымаецца. Адзін стары мястэчковец, разважаючы пра гэта, сказаў: "Што ж дзівіцца. Адна курыца грабе ад сябе. Ды і то раз-пораз азіраецца, а што там." Калі вобразна перафразаваць гэта, то можна сказаць, што і нерухомасць ды і ўсе іншыя даброты ў свеце на курыных лапках, і паварочваюцца да таго, хто больш настойлівы, нахабны, удачлівы, надзелены ўладай, хто гаспадар у гэтым свеце.

***Алесь Касцень.* (тэл. 23-135)**

P.S. Прататыпаў у герояў артыкула няма. Вобразы зборныя.

## ГЭТА ЗВАБНАЕ СЛОВА "САЛЯРА".



Вясной сустрэў у райцэнтры знаёмага механізатара, пытаюся:

- Ну, чым цяпер займаешся? Угнаенні на палі возіш?

Той махнуў рукой:

- Якія угнаенні, якія палі! Я ўжо не на трактары – на кані салому да фермы падвожу.

- Паліва няма? – дэманструю сваю дасведчанасць у справах вясковых.

–Вось-вось, паліва. З-за яго і пагарэў. Прыехалі ў вёску, ходзяць, напытваюць, каб хто саляры танней прадаў. Ну а ў мяне было "сэканомлена" літраў з дваццаць.Панёс прадаваць і на старшыню нарваўся. Зняў ён мяне з трактара.

Той, хто думае, што сёння праз мяжу ў суседнюю Літву няспынным патокам ідзе толькі гарэлка, глыбока памыляецца. Якраз гарэлкавая рака няўхільна мялее. З аднаго боку павышэнне кошту на яе ў Беларусі, з другога боку "перанасычэнне" гэтым беларускім таварам прыгранічных раёнаў Літвы і адпаведна зніжэнне яго кошту ў літах самі сабою прыводзяць да скарачэння такога роду "бізнэсу". Што ж да паліва, у тым ліку і дызельнага, то тут якраз змяншэння попыту не назіраецца. На літоўскім баку таксама палявыя работы. І тамтэйшыя фермеры маюць немалыя спадзяванні на дызельнае паліва для сваёй тэхнікі якраз беларускага гатунку.

Не будзем гаварыць сёння аб буйных мафіёзных пастаўках. Напэўна, ёсць і такія. А на бытавым, дробным узроўні усё выглядае так:

іншамаркі, якія працуюць на дызельным паліве прыходзяць на тэрыторыю Беларусі практычна з пустымі бакамі, тут гэтыя бакі самымі рознымі і найбольш даступнымі шляхамі напаўняюцца пад гарлавіну і накіроўваюцца ў Літву;

такія ж аўтамабілі, з беларускага боку ідуць праз мяжу ў Літву з поўненькімі, пад гарлавіну, бакамі, там паліва зліваецца, а назад даехаць пакідаецца некалькі літраў.

Зразумела, такая практыка найбольш распаўсюджаная як у нашых, так і ў літоўскіх прыгранічных раёнах. Там, дзе карацей "плячо" перавозак, а значыць, большы прыбытак ад "бізнэсу".

Нельга сказаць, каб адпаведныя службы не заўважалі гэтага. Але ж бак аўтамабіля правяраць не будзеш, колькасць паліва ў ім не рэгламентуецца. На беларускіх аўтазапраўках пэўны час існавала практыка запраўкі дызельным палівам за долары. Але ня доўга. Цяпер на прыгранічных аўтазапраўках можна ўліць у свой бак "саляру" толькі пры мясцовай прапісцы. Але літоўскіх аўтамабіляў у прыгранічны, асабліва ў кірмашовыя дні, не менее. Як, уласна кажучы, і беларускіх аўтамабіляў у літоўскім прыгранічны. Асвойваюцца ўжо не толькі райцэнтры, пошук дызельнага паліва актыўна вядзецца і ў глыбінцы. У гаспадарках атрымліваюць крэдыты на закуп паліва. Думаю ёсць спадзяванні на гэтыя крэдыты і ў тых, хто "спецыялізуецца" на перапродажы таго, што так няпроста дастаецца і нам.

І ў сувязі з гэтым думаецца вось аб чым. Што было да пачатку перабудовы, да канца існавання СССР? Беларусы прыгранічных з суседняй рэспублікай раёнаў добра ведалі Літву, бо вельмі часта наведваліся туды. Пры наяўнасці ў нашых людзей грошай менавіта там маглі яны знайсці для сябе неабходныя тавары, а найбольш прадукты – каўбасу, мяса, сыры і іншае. Існаваў у Паставах нават такі анекдот. Пытаюцца: што такое – доўгі, зялёны і каўбасой пахне. Адказваюць – цягнік з Вільні. Але першай сярод прыбалтыйскіх рэспублік, стаўшы на шлях незалежнасці, Літва першай адчула і цяжар эканамічных санкцый. Вось тады і кінуліся літоўцы у бліжэйшыя беларускія раёны за палівам. Потым што толькі не ішло ад нас у Літву. І каляровыя металы, і жывёла, нават коні. Цяпер вось гарэлка і зноў жа паліва. А што з Літвы? Ды практычна нічога акрамя тых даляраў, якія беларусок прыхоўвае далей, каб не ўгледзелі мытнікі.

Добра гэта ці дрэнна?

Зразумела, наша дзяржава пакутуе ад такога размывання яе таварнага рынку. Ды і літоўскім уладам гарэлачныя патокі з-за межаў вельмі недаспадобы. Нездарма яны парушальнікаў мяжы з гарэлкай за плячыма адпраўляюць у месцы зняволення і трымаюць там за свой кошт не адзін і не два месяцы. Што ж да грамадзян, якія, карыстаючыся істотнай розніцай цэнаў, каб альбо зменшыць свае выдаткі (з літоўскага боку), альбо атрымаць пэўны прыбытак (з нашага), то тут адносіны дваістыя. Не абвяргаючы таго, што сённяшні грамадзянін у нейкай ступені пастаўлены ва ўмовы выжывання, мы не можам папракаць яго за тое, што ён для гэтага прымяняе сродкі, скажам так, неардынарныя. Праўда, калі яны не пераступаюць мяжу законаў.

І на заканчэнне яшчэ аб адным механізатары з нашых мясцін. У снежні ён толькі некалькі разоў заводзіў свой трактар. І з-за адсутнасці работы, а найперш з-за адсутнасці паліва. Атрымаў за той месяц заработнай платы 2,5 мільёны рублёў, прабачце, 2,5 тысячы. Махнуў рукою і звольніўся з калгаса. Яго вёска за тры кіламетры ад беларуска-літоўскай мяжы.

***Алесь Касцень* (т.23135)**

# Без перамен на Еўрапейскай Кубе.

Пачаткам сёлетнега непрадказальнага лета для беларусаў азнаменаваўся серыяй гучных скандалаў. Зрэшты, яны здараюцца ў нас з дзіўнай перыядычнасцю. Але на гэты раз улады моцна абураліся, якую ацэнку даюць за мяжой таму, што ў нас ад Мінска да самай маленькай пастаўскай вёскі адбываецца.

Еўрапейскай Кубай назваў нашу Беларусь новы амерыканскі пасол Майкл Козак, калі атрымоўваў назначэнне ў дзяржаву паміж Польшчай і Расіяй. Вопытны дыпламат ведае, што гаворыць. Рыторыка і манера паводзін барадача Фідэля ў многім сходная тэмпераменту беларускага лідэра. Наш Рыгоравіч па тэлебачанні, калі праводзіў сотую недзе нараду па пытаннях развіцця сельскай гаспадаркі, зрабіў адкрыццё, што няма каму ў нас есці мяса і масла. Вунь каля тысячы тон яшчэ з запасаў леташніх ляжыць мёртвым грузам у сховішчах толькі ў сталіцы. Масельца нашы ідэалагічныя сябры-кубінцы даўна ўжо атрымоўваюць па картках, як і ўсё астатняе.

Тыя, хто бываў на востраве "свабоды", расказваюць, што там існуе практыка масавага адпраўлення гараджан на прымусовыя работы па ўборцы цукровага трыснягу. Ну тут мы можам нават павучыць кубінцаў, як трэба даводзіць заданні па праполцы буракоў, нарыхтовак зялёнай масы, забяспечваць памочнікаў віламі, косамі, граблямі. І галамі апраўдваць хранічныя правалы дрэнным надвор'ем, бедным травастоем. Толькі чамусці ў прыватніка гэтых бедаў быццам і неіснуе. Ён усё роўна з праблемамі спраўляецца, таму што інакш не пражыве, калі не накосіць, не вырасціць бульбачкі з зернем для сваіх парсючкоў.

Яшчэ адну развесістую аплявуху адвесіў ужо рэжыму і беларускай міліцыі не хто іншы, як славуты шоўзорка расійскай братняй эстрады Філіп Кіркораў. Калі ўбачыў, як на яго ным канцэрце амапавец ударыў жанчыну, спявак сказаў літаральна наступнае:"Остановите побоище, назад, политические проститкутки! Привыкли к сталинскому режиму?! Прекратить безобразие!" Не будзем каментаваць гэтыя словы, у многім праўдзівыя, як і ацэньваць дзеянні нашай міліцыі.

Многія перавялі дух, як толькі завяршыўся гэты музычны фэст. Добра яго праводзіць, калі на душы хораша, а ў кішэнях хрумсцяць добрыя грошы. Таго і другога даўно ў людзей не назіраецца. Толькі вось парадавала моладзь. Нейкая яна разняволеная ўжо, рэальна ацэньвае жыццё і ў адрозненне ад пажылых людзей крытычна адносіцца да існуючай рэчаіснасці. А яна становіцца ўсё горшай і маркотнай. Цэны скачуць, як чэрці на патэльні. Толькі за першы тыдзень чэрвеня іх рост склаў 3,2 працэнты. У Еўропе гэта паказчык цэлага года. Але туды шчыра нам паабяцалі краіну не весці.

На прайшоўшым у Вільнюсе міжнародным кангрэсе па ацэнцы злачынстваў камунізму цікавую ацэнку беларуска-рускага збліжэння даў вядомы праваабаронца, дэпутат Дзяржднумы Сяргей Кавалёў. Па яго ных словах, "гэта будзе д'ябальскі саюз і ні да чаго добрага ён не прывядзе". Па словах расійскага палітыка ў асобе Пуціна прыйшоў да ўлады ў матулі-Расіі КДБ. Для беларускага "бацькі" гэта як бальзам на сэрца, бо паўтараецца беларуская мадэль кіравання. Наконт таго, як арыштоўваць магната Гусінскага ў адсутнасць у краіне прэзідэнта.

У нас у летні сезон традыцыйныя праблемы. Вось настаўнікі хвалююцца, што адпускныя выплацяць часткамі ды яшчэ прымусяць касіць няўдобіцы. Раёну пашчасціла на халяву атрымаць два канфіскаваныя трактары і перадаць адзін адстаючаму калгасу "Першае мая", а другі ў тую гаспадарку, у якую палічыць неабходным "вертыкаль". Але даўгоў перад вёскай набралася столькі, што нават ва ўладных кабінетах патрохі ціхенька гавораць аб набліжэнні яшчэ больш цяжкіх часоў. Дастатак і дабрабыт не толькі да вяскоўцаў, але і да ўсіх нас яшчэ не скора прыйдзе.

Але жыццё, нават такое горкае, то спакотнае, то з дзіўнымі замаразкамі працягваецца. Выпускнікі школ здалі экзамены і правялі выпускныя балі, нягледзячы на іх забарону аддзелам адукацыі. Цяпер пара везці дакументы ў прыёмныя камісіі і спрабаваць адстаяць свае права на атрыманне жаданай прафесіі. У адваротным выпадку маладым толькі паспачуваеш, бо больш за палову беспрацоўных у Беларусі складаюць юныя. З іншых заслугоўваючых адзнакі падзей лета-2000 выдзелім наступныя:

На пастаўскім рынку на новым месцы былой аўтастаянкі цяпер арганізаваны продаж парасят, насення і іншай сельгаспрадукцыі.

Па-ранейшаму дрэнна выконвалася ў раёне праграма жыллёвага будаўніцтва.

Імя слыннага земляка, выдатнага беларускага пісьменніка-класіка Уладзіміра Дубоўкі будзе насіць Пастаўская дзіцячая бібліятэка, аб чым засведчыць на будынку адпаведная шыльда.

Сваё прафесійнае свята адзначылі на сходзе ў РДК медыкі раёна, а некаторыя работнікі нават атрымалі сціплыя сумы прэміяльных у канвертах.

Непрыемным чарговым сюрпрызам ці завядзёнкай для насельніцтва раёна стала падаражэнне газавых балонаў, у два разы – электраэнергіі, у чарговы раз – тэлефонных размоў і жыллёва-камунальных паслуг.

Пераважная большасць пастаўчан жыла з прадчуваннем яшчэ горшага ўжо бягучай восенню і зімой.

Тэлефонныя размовы з Расіяй з 19 чэрвеня вяліся па міжнародных кодах набору адразу 13 лічбаў.

У Мінску на кватэры аднага з яркіх лідэраў апазіцыі А.Лябедзькі выявілася падслухоўваючае прыстасаванне.

Урад Беларусі выдаткуе калгасам больш 50 млрд. рублёў на правядзенне ўборкі ўраджаю, што прывядзе да новага вітка інфляцыі.

Раптоўна памёр у Маскве вядомы драматург і сатырык Рыгор Горын, як і двое мясцовых кіраўнікоў.

Дамовіліся сябраваць заклятыя раней ворагі – квітнеючая буржуазная Карэя і галадаючая камуністычная КНДР.

2 ліпеня ў Мінску на Кангрэсе дэмакратычных сіл Беларусі будзе ўдзельнічаць і дэлегацыя пастаўчан.

Яшчэ парадуе новымі песнямі зорны дуэт Пахмутава-Дабранраваў, які выпісаўся з бальніцы пасля аварыі.

*САВА ЯРЛЫКОЎ*




## ПРАЛІЧЫЛАСЯ.

Кафэ не кафэ, а так сабе – забягалаўка. Свята. Заходзяць паважная кабета і ўжо досыць пацяганы жыццём дзядзька. Муж і жонка, адразу бачна, прычым, яму ў гэтым тандэме яўна другое і нават не пачэснае месца.

Падыходзіць да прылаўка. Ён, акуратненька глянуўшы на жонку, гаворыць:

-Вунь віно, цана такая ж, як і ў краме…

Але кабета, таксама бачна, што не проста ашчадная, а скупаватая, уважліва вывучае цэннікі. Піва нашмат танней. Гучна, каб усе чулі, яна звяртаецца да свайго:

-Што табе тое "чарніла", хай яго п'яніцы п'юць. Піва вунь пі колькі хочаш.

Мужык уважліва глянуў на яе:

-Колькі хочаш?

Яшчэ не разумеючы свайго пралiку, нават паражэння, ўжо і не могучы перад людзьмі ўзяць назад, адказвае:

-Ага.

-Ну тады для пачатку тры бутэлькі.

-Колькі?

-Тры бутэлькі.

Крыху разгубленая кабета купляе. Мужык стала ўладкоўваецца за столікам..Адкарвоўвае. Напаўняе першую шклянку, другую, трэццюю..

Піва скончылася. Кабета аблегчана, але ўжо з пэўным напружаннем гаворыць:

-Ну вось дапіў. Пайшлі, аўтобус хутка.

-Да аўтобуса яшчэ дзве гадзіны.- Мужык не тое, што пасмялеў, пасмялеў бы ён у хаце. Але ж тут на людзях, прычым, ён заўважыў за суседнімі столікамі ўвагу да сябе і жонкі, прычым, увагу з ухілам на яго бок.



-Яшчэ тры.

Кабета азіраецца. Уся забягалаўка, не хаваючы гэтага, уважліва сочыць за разгортваннем падзей. Моўчкі яна ідзе па піва.

Зноў напаўняюцца шклянкі.

Цяпер гэта ўжо спаборніцтва. Гэта ўжо азарт. За столікамі напаўголаса робяцца стаўкі.

Піва дапітае. Мужыку мусіць, ужо і досыць. Але ён захмялеў, ён упершыню ў жыцці навідавоку, ён хоць нейкую гадзіну, але на волі.

-Яшчэ пару.

Голас у кабеты зрываецца:

-А не лопнеш!

Але тут з-за суседняга століка сур'ёзна і галасна нехта прамаўляе:

-Тут абяцалі "колькі хочаш".

Кабета чырванее і ідзе за новай порцыяй. Вось яе то дастаткова. Мужыку тэрмінова трэба выйсці. Следам за ім зрываецца і яна.

А ў забягалаўцы ўсчынаецца дыскусія : хто колькі можа выпіць піва. Потым адзін з мужыкоў гаворыць:"Не зайздрошчу." "Каму?" "Аматару піва. Мала, што жонка пiліць. Але ж і аўтобус прыпыніць хочацца".

### ШТО ЯНЫ ЯДУЦЬ?
### (гумарэска)

Неяк узялі з сябрам па адной. Захрумкалі дружна агурком. Нічога, што без солі, затое і без нітратаў. Вось яна – града, вось ён – агурок. Па базах і крамах не мардаваны.

Сябар раптам з лёгкай такою журбою і гаворыць:

-А што яны ядуць?

-Хто яны?- пытаю.

-Ну тыя, што наверсе…

Задумаўся я, а потым і кажу: а давай падыдзем да гэтага пытання з пункту гледжання навуковага гістарызму.

-Што, ад Бога пачынаць?

-Ды не, як у інстытуце вучылі, ад апошняга цара. Ведаем мы пра гэта з пункту гледжання навуковага гістарызму? Ведаем. Бо, сябра ты мой дарагі, тады купец, якому выпаў гонар хоць раз што-небудзь прадаць у бок Зімняга палаца, так і пісаў на сваёй шыльдзе: "Пастаўшчык двара яго Імператарскай вялікасці". Купляеш ты, прыкладам, у яго лаўцы каўбасу. І ведаеш: такая ж сёння на стале Раманавых.

-Цары каўбасу не елі.- кажа сябар, - навошта ім каўбасой давіцца, калі ў іх павары свае.

-З пункту гледжання навуковага гістарызму, - пагаджаюся, - напэўна не елі. Але ж балык там, ікра. Галоўнае – на шыльдах было. Мог я ў нечым з Самім быць падобным.

-Ну а пры камуністах? – з'едліва пытаецца сябар.

-Вось тут, што ёсць, тое ёсць. Хаваліся нашы правадыры. Есці, канечне, елі і якасна, мяркуючы па тварах. А вось што менавіта і адкуль – тут дзяржаўная тайна. Мацней за атамныя сакрэты берaглі.

-А цяпер? – засвоіў метад навуковага гістарызму сябар.

-Ты тэлевізар уключы. Кожны дзень іхнія банкеты паказваюць. І чаркі ўзнятыя.

-Ага, - пагаджаецца сябар, - у келіхах, канечне, яно. А вось на сталах. Ні разу не бачыў, каб відэльцам тыкалі. Можа муляжы?

-Можа,і муляжы. Тут экспертыза патрэбна. Тут метад навуковага гістарызму не падыходзіць.

***Алесь Касцень.***

Заснавальнік і рэдактар
**Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ВАГА «Фонд імя Л. Сапегі» г. Віцебск